# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 11 (174)
лістапад 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### Беларусь і яе дыяспара: хто каму больш патрэбны?

Ролю беларускай дыяспары ў сацыяльна-эканамічным развіцці краіны абмеркавалі ў рамках Сусветнага тыдня прадпрымальніцтва ў Беларусі на спецыяльным круглым стале.

**Працяг на старонцы 2.**

### Паэт у Беларусі павінен быць змагаром

Беларускі паэт мусіць пераймацца праблемамі сваёй краіны – так лічыць Анатоль Вярцінскі. Пра самае памятнае ў жыцці творцы пагутарыў з ім напярэдадні яго 85-годдзя Міхась Скобла.

**Працяг на старонцы 5.**

### Газета, якая вядзе беларусаў Беласточчыны ў беларускасць

Гутарка са старшынём Управы Беларускага Радыё Рацыя і адначасова галоўным рэдактарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва” Яўгенам Вапам.

**Працяг на старонцы 7.**

### Ва Украіне распачынае працу беларускамоўная праграма на FM-хвалі

Прадукаваць беларускія перадачы збіраецца чарнігаўская тэлерадыёкампанія Svoboda. fm. За ўсё гісторыю ўкраінскай інфармацыйнай прасторы беларускае слова ў ім ніколі не гучала сістэмна.

**Працяг на старонцы 8.**




# СЁМЫ З’ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ПРОЙДЗЕ Ў ЛІПЕНІ 2017 ГОДА Ў МІНСКУ

Падрыхтоўка да З’езду пачалася пасяджэннем Управы “Бацькаўшчыны”.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” ладзіць з’езды беларусаў свету раз на чатыры гады пачынаючы ад 1993 года. Кожны З’езд станавіўся важнай падзеяй як для беларусаў, якія жывуць за мяжой, так і ў самой краіне.

З’езд беларусаў свету – гэта інтэграцыйная прастора, якая дазваляе прадстаўнікам міжнароднай беларускай супольнасці – людзям з рознымі палітычнымі поглядамі, эканамічным і сацыяльным статусам, – агучыць і адшукаць шляхі вырашэння актуальных для іх праблемаў рознага маштабу, ад унутрысуполкавых да агульнанацыянальных. Для Згуртавання “Бацькаўшчына” з’езд беларусаў свету з’яўляецца нагодай для аналізу сваёй дзейнасці ў міжз’ездаўскі перыяд, крокаў дзяржаўных органаў у дачыненні да дыяспары, стану і працэсаў у асяродках беларусаў замежжа, а таксама арыенціраў для выпрацоўкі стратэгіі дзейнасці на наступныя чатыры гады.

16 лістапада падчас пасяджэння Управы “Бацькаўшчыны”, ад якога можна адлічваць пачатак падрыхтоўкі Сёмага з’езду беларусаў свету, прысутныя абмяркоўвалі тэмы з’езду, секцый і круглых сталоў. Сябры Управы адзначылі, што тэмы ранейшых з’ездаў і тыя пытанні, што яны ўздымалі, застаюцца актуальнымі і па сёння: гэта і слабая нацыянальная ідэнтычнасць, і пытанне захавання суверэнітэту Беларусі. З ліку сяброў Управы была вылучаная працоўная група, адказная за распрацоўку тэмы з’езду і секцый, якія будуць вынесеныя на галасаванне Малой Рады ўжо ў снежні. Таксама ішла гутарка пра выніки прыняцця закона “Аб беларусах замежжа” і наступных кроках дзяржаўнай палітыкі адносна дыяспары. Сябры Управы пагадзіліся пра неабходнасць распрацоўкі стратэгіі альбо вызначэння прыярытэтных накірункаў дзейнасці датычна беларускага замежжа. Акрамя абмеркавання пытанняў падрыхтоўкі да з’езду, кіраўніца “Бацькаўшчыны” Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская распавялі пра бягучую дзейнасць Згуртавання, пра кантакты і супрацоўніцтва з арганізацыямі беларускай дыяспары, пра дзейнасць у межах кампаніі “Будзьма беларусамі” і новае партнёрства з Офісам за дэмакратычную Беларусь па стварэнні Інкубатара сацыяльнага прадпрымальніцтва ў Беларусі з дапамогай беларускай дыяспары.

Па рашэнні Управы Сёмы З’езд беларусаў свету адбудзецца ў ліпені 2017 года ў Мінску. Пра падрабязнасці падрыхтоўкі можна будзе даведацца з паведамленняў на сайце zbsb.org.

Чакаем вас на Бацькаўшчыне!

**Інфармацыйны цэнтр
МГА “ЗБС «Бацькаўшчына»”**



Яўген Ерчак

**круглы стол**

# БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ДЫЯСПАРА: ХТО КАМУ БОЛЬШ ПАТРЭБНЫ?

Ролю беларускай дыяспары ў сацыяльна-эканамічным развіцці краіны абмеркавалі ў рамках Сусветнага тыдня прадпрымальніцтва ў Беларусі на спецыяльным круглым стале.

## 3,5 мільёны беларусаў па ўсім свеце

Дыяспара – гэта перадусім партнёр і амбасадар, што не патрабуе дыпламатычнай акрэдытацыі. Пра гэта добра ведаюць у Згуртаванні беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Тут ад 1990 года трымаюць сталы кантакт з беларусамі нават у самых далёкіх краінах.

У свеце пражывае каля 3,5 мільёнаў нашых суайчыннікаў, а арганізаваныя суполкі беларусаў існуюць у 26 краінах. Увогуле, падлічыць беларусаў – нялёгкая справа, лічыць кіраўнік “Бацькаўшчыны” Алена Макоўская: “Найперш, канечне, улічваюцца дадзеныя перапісаў насельніцтва, але яшчэ ёсць “схаваная” і “плаваючая” эміграцыя. Далёка не ўсе беларусы дэкларуюць свой пераезд альбо ўспрымаюць яго як эміграцыю. Сучасныя камунікацыйныя тэхналогіі дазваляюць нашым суайчыннікам практычна не парываць сувязяў са звыклым для іх колам. Да ўсяго, яшчэ ёсць тэндэнцыя пры наяўнасці пашпарту іншай краіны захоўваць беларускае грамадзянства, бо гэта дае перавагу ў наведванні радзімы. Так, паводле ацэнак розных экспертаў, штогод каля 200 000 беларусаў выязджаюць на працу ў Расію і яшчэ 20 000 – у іншыя краіны, пры гэтым захоўваючы свой беларускі пашпарт”.

Увогуле, беларуская дыяспара вельмі разнастайная, і каб з ёй эфектыўна супрацоўнічаць, трэба разумець гэтую рознасць, абумоўленую і гісторыяй фармавання эміграцыі, і сацыяльным становішчам, і ўзростам, і поглядамі. Эксперт “Бацькаўшчыны”, гісторык Наталля Гардзіенка, так падзяляе беларускія суполкі ў замежжы:

“Старыя” арганізацыі ў асноўным былі створаныя паваеннай эміграцыяй у краінах Заходняй Еўропы, Аўстраліі і Паўночнай Амерыкі. Гэтая плынь беларускай дыяспары адыграла вельмі важную ролю для Беларусі, бо ў часы існавання СССР была рэпрэзентантам беларускага народа ў свеце, захоўвала беларускія традыцыі, культуру і мову. Незаменная роля паваеннай эміграцыі ў аднаўленні дзейнасці Рады БНР як падмурку існавання незалежнай Беларусі, што дало пераемнасць палітычных традыцый пры набыцці Беларуссю незалежнасці ў 1990-я.

“Сталыя” – тыя, што маюць ўжо каля двух дзесяцігоддзяў гісторыі. Гэта суполкі, што ўтварыліся ў часе распаду СССР і на постсавецкай прасторы. Пераважна гэтыя арганізацыі аб’ядноўваюць людзей, што маюць супольнае савецкае мінулае, і захаванне беларускасці для іх – як своеасаблівае вяртанне да каранёў.

“Маладыя” суполкі – больш імпульсіўныя і менш стабільныя. Яны часцей з’яўляюцца вынікам палітычнай эміграцыі з незалежнай Беларусі.

Найвялікшая праблема дыяспары, паводле вызначэння Алены Макоўскай, – асіміляцыя з прычыны слабай нацыянальнай ідэнтычнасці. Да прыкладу, у Расіі за 20 гадоў колькасць беларусаў скарацілася з 1,2 млн да 500 тысяч. У Польшчы ў пачатку 1990-х нашых суайчыннікаў было каля 300 тысяч, цяпер – меней за 50. Паводле даследаванняў, што рабіліся “Бацькаўшчынай” у межах кампаніі “Будзьма беларусамі!”, у беларусаў пераважае грамадзянская і тэрытарыяльная ідэнтычнасць, а нацыянальна-культурная прысутнічае ў меншай ступені.

“Калі беларус мяняе тэрыторыю ці пашпарт, разам з гэтымі рэаліямі трансфармуецца і ягоная ідэнтычнасць, – не без суму кажа Алена Макоўская і тут жа рэзюмуе: – Вырашаць праблемы трэба пачынаць, канечне, з Беларусі”.

Дзякуючы пастаяннаму ўзаемадзеянню з беларускай дыяспарай, з’ездам беларусаў свету стала магчымым распрацаваць і прапанаваць закон “Аб беларусах замежжа”. Закон быў прыняты ў 2014 годзе, пасля няпростага, больш чым 10-гадовага, шляху. На жаль, у ім не прадугледжваецца ўвядзенне пасведчання беларуса. Але сённяшнія рэаліі дэманструюць, што для таго каб даваць нейкія перавагі беларусам замежжа, патрэбная сістэма іх ідэнтыфікацыі.

“Складана пераканаць дзяржаву ў эканамічных ды іншых перавагах увядзення пасведчання беларуса, бо дзяржаўныя рэсурсы трэба ўкладаць

**навіны “Будзьма беларусамі!”**

# ЛІСТАПАД З “БУДЗЬМА!”

**19 лістапада ў гарадзенскай краме “Ц”** на Вялікай Траецкай не было дзе яблыку ўпасці. Мерапрыемствы з нагоды адкрыцця кніжнай палічкі змянялі адно адно. У межах грамадскай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!” імпрэзу распачалі вядомы паэт **Андрэй Хадановіч** і празаік **Павал Касцюкевіч**. Хадановіч прэзентаваў новую **кнігу вершаў “Цягнік Чыкага–Токіё”**, а таксама **кнігу вершаў Шарля Бадлера** ў перакладзе на нашу мову. Чытанні ён аздобіў спевамі пад гітару. Павал Касцюкевіч апавёў гісторыю стварэння свайго **рамана “План Бабарозы”** і зачытаў колькі ўрыўкаў з яго.

*

На запрашэнне “Будзьма!” і Цэнтра даследавання грамадскага меркавання SYMPA ў Беларусь прыязджаў вядомы эксперт **Звіяд Дэўдарыяні**, дырэктар “Агенцтва грамадзянскага развіцця” (CiDA, Грузія). ***На працягу двух дзён*** спадар Звіяд сустракаўся з грамадскімі актывістамі Мінска і Віцебска, каб расказаць пра паспяховыя кейсы і метады працы з дзяржавай.

*

**У Бабруйску** з ініцыятывы “Будзьма!” прайшло **ток-шоў “Якім мы хочам бачыць свой горад?”** з удзелам старшыні Таварыства аховы помнікаў Беларусі **Антона Астаповіча**, арганізаткі фестывалю “У госці да лепельскага цмока” **Вольгі Махаленка**, ініцыятара помніка Шуру Балаганаву ў Бабруйску **Валера Аляксева**, аўтаркі праекта “Маладзёвы парк” у Бабруйску **Анастасіі Дудаль**. Мадэравала размову **Наталля Халанская**. На пачатку сустрэчы рэгіянальны менеджар “Будзьма!” **Марыя Шарый** прэзентавала дзейнасць кампаніі і яе філасофію: найперш не толькі спажываць, але і ствараць культуру і рабіць гэта разам.

*

**У Маладзечне** менеджары “Будзьма!” разам з **Антонам Астаповічам**, кіраўніком Школы маладых менеджараў SYMPA **Дзмітрыем Маркушэўскім** і экс-старшыём “Гісторыкі” **Змітром Рагачовым** разглядалі прапановы паляпшэння гарадскога жыцця, прадстаўленыя на **“Кірмаш праектаў”**. Адмыслоўцы адзначылі, што ўсе праекты жыццяздольныя, а некаторыя будзе прасцей зладзіць, калі аб’яднаць некалькі падобных ініцыятыў. **Марыя Шарый** нагадала, што па кансультацыі можна звяртацца ў грамадскую кампанію.

*

**27 лістапада ў Вілейцы** пры падтрымцы “Будзьма!” адбылася **арт-імпрэза “КінаВілейка”**, прысвечаная 135-годдзю са дня народзінаў фатографа Беркі Бермана. Арганізатарам мерапрыемства выступіла гісторыка-краязнаўчая ініцыятыва “Волат”. Наведвальнікі імпрэзы таксама пабачылі фільм Альфрэда Хічкока “Лэдзі знікае” з беларускімі субтытрамі, перад пачаткам якога выступіў кінакрытык і культуролаг **Максім Жбанкоў**.

budzma.by

сёння, а вынік будзе толькі праз пэўны час. Але не паклаўшы, не возьмеш! – кажа Алена Макоўская і ўсё ж захоўвае аптымізм. – Магчыма дэманстрацыя поспеху іншых краінаў, якія змаглі эфектыўна наладзіць супрацоўніцтва з сваімі дыяспарамі, будзе дастатковым аргументам, інакш (мы мусім гэта ўсведамляць) наша краіна вырачаная на адставанне ў розных сферах і стагнацыю. Безумоўна, працэсы ўзаемадзеяння нашай краіны і беларусаў замежжа маглі б ісці нашмат хутчэй і больш эфектыўна, калі б афіцыйная Беларусь і дыяспара мелі агульныя погляды на нацыянальнае будаўніцтва краіны. Але гэта доўгі працэс. На сёння важным аб'яднаўчым фактарам можа стаць умацаванне незалежнасці Беларусі".

## Ці рабіла што-небудзь пасольства, каб іх ангажаваць?

Кансультант па сувязях з грамадскасцю Аляксандр Чайчыц прыехаў з Масквы, у якой і нарадзіўся. Яго выступ быў прысвечаны нявыкарыстанаму патэнцыялу "беларускай япі-дыяспары": прафесіяналам ва ўзросце ад 30 да 50 гадоў. Ягоная прэзентацыя проста стракацела імёнамі выхадцаў з Беларусі, вядомых дзе заўгодна, толькі не тут.

Беларусы ў Англіі выйгралі грант у вядомага прадпрымальніка Рычарда Брэнсана. Уплывовы журналіст у тэме інтэрнэту, высокіх тэхналогій Яўген Марозаў, што піша для "The Guardian", родам з Салігорска. Гары Вайнярчук з Бабруйска – гуру маркетынгу ў ЗША. Руслан Коган – паспяховы інтэрнэт-прадпрымальнік у Аўстраліі.

"Ці рабіла што-небудзь беларускае пасольства, каб іх ангажаваць?" – задаў рытарычнае пытанне маскоўскі беларус.

Паводле ягонага меркавання, самае каштоўнае – гэта досвед такіх паспяховых людзей. Яны навучыліся жыць у глабальным свеце – гэта яны могуць прынесці ў Беларусь.

Аляксандр Чайчыц спаслаўся на звесткі СМІ, паводле якіх палова беларускіх школьнікаў хацела б з'ехаць за мяжу. Больш за 23 тысячы студэнтаў з Беларусі ўжо вучыцца ў ВНУ Расіі, а 15% моладзі не вярнулася па заканчэнні праграмы Work&Travel USA.

"Дыяспара Беларусі патрэбная больш, чым Беларусь дыяспары", – гаворыць Аляксандр Чайчыц і прапануе варыянты, як зацікавіць беларускімі справамі беларускіх япі.

Нацыянальная культура ў сучаснай якаснай інтэрпрэтацыі, нэтворкінг, магчымасць усталявання кантактаў, тусоўка, мерапрыемствы для дзяцей, валанцёрства і дабрачыннасць.

"Гэта тое, чым магло б займацца беларускае пасольства. Дыяспары не варта баяцца, а Беларусь яе баялася заўжды", – падсумаваў выступоўца.

Адна з такіх япі, пра якіх казаў Аляксандр, удзельнічала ў круглым стале. Маша – адна з аўтарак культавага выдання коміксаў "Гэта Беларусь, дзетка!".

У дзяцінстве яна з бацькамі пераехала ў Нідэрланды.

"На прыкладзе майго шляху мы ўсе зможам павучыцца, – кажа Марыя. – Да 22 гадоў я вельмі хацела як найхутчэй інтэгравацца ў тое грамадства. I want to be Dutch, Mom! – так было ў нас у сям'і".

Ва ўніверсітэце дзяўчына задумалася: "Раптам ёсць тое, што мяне вылучае і робіць унікальнай сярод нідэрландцаў?" – і па заканчэнні яна прыняла валявое рашэнне ехаць у рускамоўную краіну. На той момант розніцы паміж Беларуссю і Расіяй яна не адчувала.

Марыя пачала працаваць у праграме па развіцці сацыяльнага прадпрымальніцтва ў Беларусі SocStarter. Яна заўважыла, што ў Мінску багата маладых людзей з добрымі ідэямі – цудоўная глеба, каб развіваць тэму сацыяльна адказнага малога і сярэдняга бізнесу. Для заняткаў з такімі ініцыятыўнымі людзьмі яна здолела прыцягнуць ажно 24 спецыялістаў з боку беларускай дыяспары, людзей, якія ў бальшыні атрымалі адукацыю за межамі Беларусі і маюць досвед вядзення ўласнай справы. Усе яны будуць працаваць з ініцыятарамі сацыяльных прадпрыемстваў у Беларусі.

## Эміграцыя – узмацненне ці страта нацыянальнай ідэнтычнасці?

Супернік ці партнёр па супрацоўніцтве? Аднабаковая ці кругавая міграцыя? Уцечка мазгоў ці ўзмацненне інтэлектуальнага патэнцыялу? Аб'ект для стымуляцыі ці крыніца інвестыцый? Узмацненне ці страта нацыянальнай ідэнтычнасці?

Гэтыя пытанні "падвесіў" старшыня рады The Network University Герд Юнэ. Пераезд на сталае месца жыхарства за мяжу ў глабальным свеце ўжо даўно перасталі ўспрымаць як катастрофу для нацыянальнай палітыкі канкрэтнай краіны. Сусветны досвед пераконвае: калі міграцыю не спыніць, варта яе ачоліць.

Усе ведаюць, што, у адрозненне ад беларускіх, кітайскія студэнты пасля навучання за мяжой не застаюцца там жыць. Напрыклад, у 2014 годзе з амаль 460 000 студэнтаў на Радзіму вярнулася 360 000. А ўсё дзякуючы Нацыянальнай праграме развіцця талентаў, якая заахвочвае такое патрыятычнае рашэнне маладых спецыялістаў.

Індыя выйшла ў лідары ў праграмным забеспячэнні дзякуючы тысячам мігрантаў, што вярнуліся. Гэта стала магчымым дзякуючы спрыяльнай палітыцы эканамічнага грамадзянства са спецыяльным пашпартам.

Спецыяльная "жоўтая картка" для тых, хто з'ехаў, ёсць нават у Эфіопіі. Яе ўладальнік мае такія ж правы, што і грамадзянін.

У Ірландыі існуе сетка, якая складаецца з трох сотняў уплывовых ірландцаў і людзей, звязаных з Ірландыяй. Яны здзяйсняюць каштоўную міжнародную экспертызу ў 40 краінах свету ў шчыльным кантакце з урадам і дзяржаўнымі органамі. Гэта ідзе на карысць ірландскай эканоміцы, турыстычнаму бізнесу, культурнай прывабнасці краіны.

Кіраўнік школы сацыяльных навацый з Берліна Сяргей Мядзведзеў лічыць, што ва ўсходніх краінаў беларусам сапраўды ёсць чаму павучыцца.

"Чаго не хапае ўсходнееўрапейскім дыяспарам? Новых шляхоў камунікацыі! Я гляджу па беларускай дыяспары ў Берліне: штомесяц збіраюцца адны і тыя ж людзі, Лявон Вольскі прыязджае. Нічога інавацыйнага не адбываецца", – кажа прадпрымальнік.

Ён прывёў у прыклад стартап, з якім пазнаёміўся ў школе сацыяльных інавацый у Берліне. Праект падтрымліваецца фондам Боша і "Гуглам". З аднаго боку прафесіяналы з усяго свету ў галіне крэатыўнай эканомікі, а з іншага – грамадзянскія ініцыятывы, якія не маюць сродкаў, але ім трэба прафесійная дапамога.

Такі ж праект мог бы аб'яднаць беларусаў на базе дыяспараў, што ўжо існуюць. Падчас круглага стала быў агучаны і скепсіс: ці патрэбная дзяржаве моцная дыяспара?

Як зазначыў аналітык Ліберальнага клуба Вадзім Мажэйка, у дыяспар няма іншага МЗС, у МЗС няма іншых дыяспар: выйсце адно – супрацоўнічаць.

Старшы праграмны менеджар "ОБД Брусель" Алена Ліс падсумавала, што сёння ў дзяржавы ёсць інтарэс да дыяспар у кантэксце сацыяльнага прадпрымальніцтва. Пакуль арганізатары круглага стала збіраюць прапановы, каб сфармаваць іх у агульнае рэзюмэ і дасылаць у МЗС.

**Хрысціна Марчук, budzma.by**

---

**навіны "Будзьма беларусамі!"**

## "ПЯЦІСОТГОДНАСЦЬ" У ЛІСТАПАДЗЕ

**1 лістапада** ў межах кампаніі "Пяцісотгоднасць", арганізаванай Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", **у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы** прайшла прэзентацыя **інтэрнэт-часопіса "ПрайдзіСвет"** і двух апошніх выданняў з серыі "PostScriptum" – **зборніка апавяданняў "Нататкі пра Шэрлака Холмса" Артура Конана Дойла** і кнігі, што ўлучае **аповесць Хораса Ўолпала "Замак Отранта" і раман "Франкенштайн, ці Сучасны Праметэй"**. Імпрэзу праводзілі перакладчыкі **Ганна Янкута** і **Ігар Крэбс**. **У той жа дзень** яны наведалі **сярэднюю школу ў Ганчарах, што на Лідчыне**, дзе сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі. Для дзяцей былі праведзены конкурсы, у якіх яны маглі выйграць кнігі і паштоўкі ад "Будзьма!" з серыі "Не маўчы па-беларуску!".

**13 лістапада ў будынку Беларускага тэатра "Лялька"** адбылася прэзентацыя **дыска "Вяселле"**, арганізаваная вядомым музыкам **Сяргеем Доўгушавым** і беларускай казачніцай **Аленай Масла**. Запісы, зробленыя ў 1968–1969 гадах пісьменнікам Сяргеем Панізнікам у ваколіцах Лявонпаля (Мёрскі раён), прагучалі ў выкананні полацкага фальклорнага **гурта "Варган"**.

**17 лістапада** кампанію ў Магілёве прадстаўлялі паэты **Уладзімір Мароз**, **Георгій Ліхтаровіч** і **Анатоль Зэкаў**. Адбыліся чатыры сустрэчы з чытачамі – у **дзіцячай бібліятэцы №3**, у **бібліятэках імя А.С. Пушкіна**, **імя Карла Маркса** і **імя Янкі Купалы**.

**21 лістапада Андрэй Хадановіч** наведаў **Лагойск**. Літаратар выступіў для вучняў старэйшых класаў лагойскай **школы № 1**. Дзяўчаты і хлопцы станчылі традыцыйны танец у народных строях, а напрыканцы выканалі эстрадную песню пра Беларусь. Сам Андрэй чытаў вершы, апавядаў пра **зборнік дзіцячай паэзіі "Нататкі таткі"**, дэкламаваў перакладзеныя ім творы паэта Шарля Бадлера, а таксама спяваў пад гітару. Аўтары найлепшых пытанняў атрымалі сувеніры ад кампаніі "Будзьма!".

**23 лістапада ў гімназіі № 4** горада **Мінска** адбылася сустрэча археолага **Мікалая Плавінскага** з малодшымі школьнікамі. Падчас сустрэчы спадар Мікалай апавёў пра археалогію, раскопкі ў Беларусі, а таксама прадэманстраваў, як вынікі працы археолагаў ператвараюцца ў рэканструкцыі знешняга выгляду і побыту нашых продкаў. Акрамя таго, Мікалай Плавінскі прэзентаваў сваю новую дзіцячую **кнігу "Прыгоды Васількі з Брачыслаўля"**.

**26 лістапада** адбылася сустрэча **Антаніны Хатэнкі** і **Таццяны Грыневіч у 29-й СШ**. Імпрэза распачалася з вершаў Уладзіміра Караткевіча. У выкананні Таццяны Грыневіч прагучала лірычная песня на словы Караткевіча "Дробненькі дожджык". Затым гаворка перакінулася да Скарыны, першадрукара, знанага ў Еўропе і надоўга забытага на Айчыне, і да Максіма Багдановіча, якому спаўняецца 125 гадоў.

**budzma.by**

навіны

## БЕЛАРУСЫ ІРКУЦКА УВАЙШЛІ Ў ТРОЙКУ НАЙМАЦНЕЙШЫХ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНІЦКІХ ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ГОРАДА

Іркуцк гістарычна фармаваўся як горад перасяленчы. Сёння ў горадзе жывуць прадстаўнікі больш як 120 нацыянальнасцяў. Паводле дадзеных Упраўлення Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці ў Іркуцку зарэгістравана трыццаць дзевяць нацыянальна-культурных аб'яднанняў.

З 2011 года ў мэтах актывізацыі дзейнасці нацыянальна-культурных грамадскіх аб'яднанняў Іркуцка праводзіцца "Конкурс на найлепшы нацыянальна-культурны цэнтр горада Іркуцка".

У 2016 годзе дзве беларускія арганізацыі Іркуцка – "Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага" (зарэгістраваная ў 1996 годзе) і Іркуцкая гарадская маладзёжная грамадская арганізацыя "Маладзевы клуб Крывічы" (зарэгістраваная ў 2009 годзе) – увайшлі ў тройку наймацнейшых арганізацый горада Іркуцка, заняўшы два другіх месцы!

Поспехі былі і раней. Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага аднойчы заняло было першае месца, а другое месца мела нават пяць гадоў запар!

**Паводле старшыні РГА "Іркуцкае таварыства беларускай культуры ім. Яна Чэрскага" Алёны Сіпаковай**

навіны

## АНДРЭЙ САННІКАЎ ПРЭЗЕНТАВАЎ СВАЮ КНІГУ Ў КАНАДЗЕ

Прэзентацыя кнігі Андрэя Саннікава "Мая гісторыя. Беларуская "Амерыканка", або выбары пры дыктатуры" адбылася 17 лістапада адразу ў двух гарадах Канады.

Раніцай кандыдата ў прэзідэнты Беларусі на выбарах у 2010 годзе, намесніка Міністра Замежных справаў Беларусі ў 1995–1996 гг. Андрэя Саннікава віталі беларусы Атавы на чале з Пётрам Мурзёнкам, а ўвечары таго ж дня аўтар быў у Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры горада Таронта. Абедзве сустрэчы былі арганізаваныя Згуртаваннем беларусаў Канады. Старшыня Згуртавання Зміцер Эльяшэвіч павіншаваў Саннікава з вылучэннем на прэмію Ежы Гедройца, якую ўручае прэстыжнае польскае выданне "Rzeczpospolita".

Спадар Андрэй распавёў пра падзеі ў дзень выбараў 2010 года, пра ўмовы ўтрымання ў КДБ, пра сітуацыю з палітычна матываваным пераследам Уладзіміра Кондруся, а таксама адказаў на пытанні прысутных і падпісаў свае кнігі.

На сустрэчы ў Таронта прысутнічаў Маркус Колга, грамадскі актывіст і журналіст, сябра Рады грамадскіх арганізацый Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Канадзе (Central and Eastern European Council in Canada), які распавёў пра працу Рады і парэкамендаваў беларусам замежжа быць больш актыўнымі, звяртацца да прадстаўнікоў мясцовай улады.

**Ірына Тоўсцік**

навіны

## ТАВАРЫСТВА "УЗДЫМ" АДЗНАЧЫЛА 125-ГОДДЗЕ КАСТУСЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

У сувязі са 125-годдзем з дня нараджэння Кастуся Александровіча беларускае таварыства "Уздым" пры падтрымцы Даўгаўпілскай краявой думы зладзіла разам з Цэнтрам польскай культуры вечарыну, прысвечаную настаўніку і рэжысёру беларускага тэатра.

Кастусь Александровіч, выхадзец з заможнай польскай сям'і, пасля ўдзелу ў Першай сусветнай вайне на першых настаўніцкіх курсах, арганізаваных беларускім таварыствам "Бацькаўшчына", пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Люцыяй Габран. Яны разам працавалі настаўнікамі і ўдзельнічалі ў беларускім руху – сталі артыстамі беларускага народнага тэатра. А калі ў 1931 г. было арганізавана Даўгаўпілскае аддзяленне тэатральнага таварыства, Кастусь Александровіч стаў яго кіраўніком і рэжысёрам. З гастролямі тэатр аб'ехаў усю Латгалію, а на іх выступ у Індры сабралася больш за тысячу гледачоў. З прыходам да ўлады Карліса Ульманіса Кастусь Александровіч перайшоў у польскую школу, дзе і прапрацаваў да сваёй заўчаснай смерці.

Унучка Кастуся Александровіча Ірэна Куніцкая захавала і перадала беларускаму таварыству "Уздым" сямейны архіў – вялікую колькасць фотаздымкаў 1920–1930 гг., дакументаў, тагачасных афіш тэатральных пастановак і беларускіх вечарын. Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе ў асобе першага Генеральнага консула Анатоля Іванавіча Жалтоўскага выказала ёй шчырую падзяку за гэты падарунак.

У зале былі арганізаваны дзве выставы. Першую, з асабістых рэчаў дзядулі і бабулі, паказала І. Куніцкая. Другая была падрыхтаваная М. Паўловічам з фотаздымкаў і дакументаў сям'і Александровічаў.

Вялі вечарыну праўнучка Александровіча Крыстына Куніцка і старшыня таварыства "Уздым" Людміла Сінякова на дзвюх мовах – беларускай і польскай. Падчас імпрэзы выступілі хор польскага таварыства "Промень", беларускі танцавальны калектыў "Лянок" (кіраўнік Марына Медуніцкая), беларуская тэатральная студыя з вядомай п'есай Ф. Аляхновіча "Чорт і баба" (рэжысёр Галіна Францаўна Сантоцкая). Якраз гэтую п'есу амаль сто гадоў таму таксама гралі ў беларускім тэатры. Паэт Станіслаў Валодзька падараваў слухачам верш, прысвечаны юбілею К. Александровіча і беларускаму тэатру, а Крыстына Куніцкая праспявала песню на польскай мове. Свята завяршыла выступленне гурта беларускай народнай песні "Купалінка" (кіраўнік Вячаслаў Пятроў) і салістка Зінаіда Сіліні.

**Паводле Вольгі Паўловіч, намесніцы старшыні таварыства "Уздым"**



## ВІНШВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў снежні:
Радзіма Гарэцкага (Беларусь),
Станіслава Шушкевіча (Беларусь),
Алену Чуяшкову (Данія), Кірыла Касцяна (Чэхія).

Жадаем шаноўным імянніннікам добрага здароўя, дабрабыту, творчага натхнення, доўгіх гадоў жыцця і спору ў працы.

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**

навіны

## БЕЛАРУСЫ Ў НЬЮ-ЁРКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ГЕРОЯЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

У Нью-Ёрку, у грамадскай зале царквы св. Кірылы Тураўскага, 27 лістапада ўшанавалі памяць герояў Слуцкага Збройнага Чыну.

У 1920 годзе, калі Чырвоная армія рушыла на Захад з мэтай "вызвалення" працоўных краін Еўропы ад прыгнятальнікаў, лепшыя сыны беларускага народа зразумелі, што Бацькаўшчына наша руйнуецца чужынцамі і адбываецца яе знішчэнне. Палітыка савецкіх уладаў паспрыяла таму, каб людзі прыйшлі да высновы, што калі ты жадаеш быць вольным чалавекам – трэба змагацца за сваю свабоду.

Найбольшы супраціў савецкай уладзе аказалі жыхары Слуцкага павета. Жыхары Слуцка, мястэчка Грозава і наваколных вёсак сфармавалі два палкі самаабароны, якія больш за месяц стрымлівалі наступ войскаў непараўнальна мацнейшага ворага. Гэтыя падзеі ўвайшлі ў гісторыю пад назвай Слуцкі Збройны Чын.

На жаль, на сёння гэтая дата не адзначаецца ў нашай краіне на афіцыйным узроўні, бо наша ўлада акцэнтуе ўвагу на святкаванні старых савецкіх святаў, а калі і ўшаноўвае памяць кагосьці, дык толькі тых людзей, якія працавалі дзеля знішчэння беларускае дзяржаўнасці і беларускага народу, такіх як Сувораў, Кнорын, Мяснікоў і г.д.

**Святлана Казачок, "Наша Ніва"**

навіны

## СУСТРЭЧА СА СТАНІСЛАВАМ ШУШКЕВІЧАМ У ВАШЫНГТОНЕ

12 лістапада ў Вашынгтоне адбылася сустрэча беларусаў з першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам.

Ён з жонкай прыбыў у амерыканскую сталіцу, каб узяць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 25-м угодкам падпісання Белавежскіх пагадненняў. На мерапрыемства былі таксама запрошаныя першы прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук і першы дзяржсакратар Расійскай Федэрацыі Генадзь Бурбуліс. Урачыстая сустрэча прайшла ў хаце Ірыны Красоўскай і Бруса Джэксана.

**Паводле Вячаслава Бортніка, старшыні Вашынгтонскага аддзялення Беларуска-Амерыканскага Задзіночання**


svaboda.org (RFE/RL)

**гутарка**

# Анатоль Вярцінскі: ПАЭТ У БЕЛАРУСІ ПАВІНЕН БЫЦЬ ЗМАГАРОМ

Беларускі паэт мусіць пераймацца праблемамі сваёй краіны – так лічыць Анатоль Вярцінскі. Пра самае памятнае ў жыцці творцы пагутарыў з ім напярэдадні яго 85-годдзя Міхась Скобла.

**– У вашай роднай вёсцы Дзямешкава мне адразу паказалі хату Вярцінскіх. Уразілі яе памеры – як аднапакаёўка. Вашай сям'і там не цесна было?**

– Было ўтульна. Жылі без электрычнасці, памятаю вечары пры лучыне. Вельмі шкада, што хата сёння пустуе – гэта свайго роду ілюстрацыя да гучных славаў пра адраджэнне нашага сяла, пра росквіт аграгарадкоў. Мая вёска (як і сотні іншых), па сутнасці, вымірае.

**– Вы былі сакратаром Саюзу пісьменнікаў, рэдагавалі тыднёвік “Літаратура і мастацтва”, працавалі ў Вярхоўным Савеце. Дзе вы адчувалі сябе найлепш?**

– У рэдакцыі “Літаратуры і мастацтва”. Жыве ўва мне патрэба публічна выказвацца на тую ці іншую надзённую тэму. І не толькі ў вершах. Таму найкамфортней мне было ў журналістыцы. Калі б менш часу і энергіі аддаваў газеце, то нашмат больш зрабіў бы як паэт, як драматург. Але мяне заўсёды суцяшала тое, што Янка Купала рэдагаваў “Нашу ніву” і амаль усе нашы класікі працавалі ў рэдакцыях.

**– Генадзь Бураўкін сярод найгалоўных справаў свайго жыцця назваў абарону Васіля Быкава ў 1960-я гады. “Мы з Толем Вярцінскім лічылі, што калі не абаронім Быкава, то іншым разам нас ужо і за людзей не палічаць”.**

– Мы тады павінны былі вызначыцца ў адносінах да дабра і зла. Ліст у абарону Быкава я лічу выразнай грамадска-палітычнай акцыяй. Даследчык Сяргей Шапран высветліў, што той наш ліст разглядаўся на ўзроўні ЦК КПСС. “О процессах в среде белорусских писателей” у найвышэйшую інстанцыю дакладаў тагачасны старшыня КДБ Сямічасны. На тым данясенні стаяла рэзалюцыя: “Тов. Шауре. М. Суслов”. Шаура тады ўзначальваў аддзел культуры ЦК КПСС, куды трапіў з пасады сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі.

**– Чаму той ліст не пашкодзіў ні вам, ні Бураўкіну?**

– Магчыма, у членаў ЦК КПСС былі яшчэ ў памяці ўрокі ХХ з'езду. Магчыма, давала пра сябе знаць хрушчоўская адліга. Да таго ж, як мне падаецца, тагачасная савецкая ўлада не была помслівай і ў дробязях нецярпімай.

**– Аднойчы вы падаравалі мне Каран. Я напаткаў там такія словы: “Паэты – хлусы, якія блукаюць па раўнінах і гавораць тое, чаго самі не робяць”. Вядомая і другая формула: “Поэт в России больше, чем поэт”. А кім мае быць паэт у Беларусі?**

– У Беларусі паэт – з'ява яшчэ большая, чым паэт у Расіі. Для аўтара згаданага табой выслоўя, Яўгенія Еўтушэнкі, не існуе праблемаў мовы, гістарычнай памяці, палітычнай незалежнасці яго краіны. А перад беларускім паэтам яны рэальна паўстаюць. Таму ён, апрача ўсяго, павінен быць патрыётам і змагаром за Беларусь. У якой, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, шчаслівая будучыня. Як пісаў я ў адным з вершаў: “Jeszcze Polska nie zginęła, / ще не вмерла Україна, / і жыве на свеце белым / Беларусь, мая краіна... / Будуць воля ды Пагоня, / ды паходні палаць ясна, – / І не згінем мы сягоння, / ну а заўтра – жыцьмем шчасна”. І так будзе, я ў гэтым упэўнены.

**Міхась Скобла, “Радыё Свабода”**

**навіны**

# ЗВОЛЬНЕНЫЯ ГАРАДЗЕНСКІЯ ГІСТОРЫКІ ВЫДАЛІ ЧАСОПІС

У Горадні прэзентавалі першы нумар новага навуковага гістарычнага выдання – “Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў”. Новы акадэмічны часопіс выдаецца беларускімі навукоўцамі пры Варшаўскім універсітэце.

Рэдактар “Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў” Генадзь Семянчук сказаў, што новы гістарычны часопіс выдаецца пераважна былымі гарадзенскімі гісторыкамі, якія па палітычных матывах былі звольненыя з універсітэта імя Янкі Купалы. Больш за дзесяць звольненых гісторыкаў былі прынятыя ў Цэнтр беларускіх студыяў, які створаны адмыслова для іх пры Варшаўскім універсітэце.

Паводле Семянчука, канцэпцыя выдання не будзе адыходзіць ад класічных акадэмічных навуковых выданняў гуманітарнага кірунку. Плануецца, што большасць тэкстаў у часопісе будуць займаць вынікі навуковых даследаванняў сябраў Цэнтра беларускіх студыяў пры Варшаўскім універсітэце. Таксама будуць госці, абавязкова маладыя навукоўцы. У выданні будуць рубрыкі – “Крыніцы” і “Рэцэнзіі”.

Што датычыць тэматыкі, то, паводле рэдактара Генадзя Семянчука, пераважна будзе рэпрэзентавацца беларуская гістарыяграфія, а таксама беларуска-польская гістарычная праблематыка і дачыненні. “Першы нумар нашага часопіса, – распавядае спадар Генадзь, – прадстаўлены тэкстамі, якія датычаць пераважна гісторыі XIX–XX стагоддзяў, але ёсць і іншае. Да прыкладу, сацыёлаг Вардамацкі прадставіў тэкст, прысвечаны сучасным сацыялагічным аналізам рэакцыі беларускага грамадства на падзеі ва Украіне. Хачу зазначыць, што тэксты ў часопісе будуць друкавацца на адной з трох моваў: па-беларуску, па-польску альбо па-ангельску”.



Радыё Рацыя

Паводле прафесара Алеся Краўцэвіча, выданне мае прадэманстраваць, што гарадзенскія гісторыкі, звольненыя па палітычных матывах з універсітэта імя Янкі Купалы, надалей прысутнічаюць у навуковай прасторы: “Вельмі добра, што ў нас з'явілася такая магчымасць выдаваць свой навуковы часопіс. Гэта будзе сведчаннем таго, што мы існуем у навуковай прасторы. Ва ўсёй Беларусі выходзіць толькі адзін навуковы гістарычны часопіс “Беларускі гістарычны агляд”. Гэта практычна адзінае выданне на ўсю Беларусь на мноства ўніверсітэтаў. Складваецца ўражанне, што беларускім гісторыкам плацяць грошы за тое, каб яны не пісалі гісторыі Беларусі”.

**Міхась Карневіч, “Радыё Свабода”**

**навіны**

# АДАМ МАЛЬДЗІС І ВАЛЕР КАЛІНОЎСКІ ЎГАНАРАВАНЫЯ ЗНАКАМІ “BENE MERITO”

У амбасадзе Польшчы ў Мінску прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання беларусаў польскімі ганаровымі знакамі “Bene merito” і “Pro Patria”.

Журналіст “Радыё Свабода” Валер Каліноўскі і прафесар, даследчык, перакладчык Адам Мальдзіс уганараваныя за асабісты ўнёсак у развіццё беларуска-польскіх сувязяў. Знакамі Управы ў справах ветэранаў і рэпрэсаваных асобаў “Pro Patria” былі ўзнагароджаныя два беларускія ксяндзы і чатыры валанцёры, якія аднавілі крыжы на магілах польскіх вайскоўцаў у Браславе.

“Bene merito” ў перакладзе з лаціны азначае “Варты ўзнагароды”, “Pro Patria” – “За Радзіму”. Уручаецца сярэбраны знак за асабістыя заслугі перад Польшчай.

**Паводле Іны Студзінскай, “Радыё Свабода”**

## ВІНШУЕМ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА!

30 снежня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС «Бацькаўшчына»” Павел Севярынец (Беларусь).

Сардэчна віншуем шаноўнага спадара Паўла з юбілеем і зычым яму моцнага здароўя, шчасця ў сямейным жыцці, радасных дзён, натхнення, яшчэ большай энергіі і плёну!

**Управа МГА “ЗБС «Бацькаўшчына»”**

навіны

# ЧАЦВЁРТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ УКРАІНЫ АДБЫЎСЯ ЦЯГАМ АДНАГО ДНЯ



11-га лістапада ў Кіеве ў зале Гандлёва-прамысловай палаты Украіны адбыўся Чацвёрты з'езд беларусаў Украіны, аб'яднаных ва Усеўкраінскі саюз беларусаў (УСБ).

На з'езд прыбылі прадстаўнікі рэгіянальных суполак з 14 абласцей Украіны, але не было прадстаўнікоў з Крыма, Данецкай і Луганскай абласцей. Усяго сабралася 62 чалавекі.

Было зачытана прывітанне ўдзельнікам з'езду ад Амбасадара Беларусі ва Украіне Ігара Сокала. Кіраўніца Мікалаеўскага абласнога нацыянальна-культурнага таварыства беларусаў "Голас Радзімы" Таццяна Дзяменнікава зачытала прывітанне ад кіраўніка Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма" Максіма Дубянка. Сам я вітаў удзельнікаў ад імя МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» падчас свайго выступу пры абмеркаванні даклада старшыні УСБ спадара Пятра Лайшава.

Прывітаўшы дэлегатаў, я выказаў пажаданне пачуць на з'ездзе тую мову, якая адзіная родная для ўсіх беларусаў, і кнігадрукаванню на якой у 2017 годзе споўніцца 500 гадоў, бо ўсе прамовы, акрамя зачытаных падчас адкрыцця з'езда вітальных лістоў, гучалі па-руску. Але, на жаль, мой прыклад натхніў толькі прадстаўніка беларусаў з Харкава – спадара Васіля Астаповіча. Акрамя нас, па-беларуску выступаў яшчэ Рыгор Піўтарак, беларусіст, загадчык Аддзелу агульнаславянскай праблематыкі і ўсходнеславянскіх моў, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, доктар філалагічных навук, прафесар, які выдаў для украінцаў падручнік "Білоруська мова" і "Білорусько-український словник".

З'езд прайшоў цягам аднаго дня, дэлегатам давялося дабірацца да Кіева за ўласны кошт. Ані Украіна, ані Беларусь УСБ ніякай фінансавай дапамогі не аказваюць. Арганізацыя нават не мае свайго офіса, як, дарэчы, і большасць рэгіянальных суполак беларускай культуры ва Украіне. Ладзіць мерапрыемствы дапамагае толькі спрыянне кіраўнікоў дамоў культуры, бібліятэк і іншых установаў культуры, якія даюць магчымасць бясплатна карыстацца памяшканнямі. Але першы сакратар Амбасады Аляксей Панкраценка занатаваў у свой рабочы дзённік усе прапановы і просьбы дэлегатаў, каб далажыць амбасадару па вяртанні таго з Мінска. Магчыма, з гэтага будзе нейкая карысць.

Дэлегаты з'езду аднагалосна прагаласавалі за абранне Старшынёй УСБ на паўторны тэрмін спадара Пятра Лайшава, які вынес на галасаванне прозвішчы сваіх памочнікаў. Сярод іншых прыемных момантаў работы з'езду можна адзначыць тое, што многім дэлегатам была ўручаная Грамата Усеўкраінскага саюза беларусаў за "плідну діяльність та вагомий особистий внесок у справу зміцнення двостороннього українсько-білоруського співробітництва, популяризацію і розвиток білоруських національних культурних цінностей, дієву участь у формуванні етнонаціональної політики і єдності в Україні".

**Паводле Петруся Капчыка, кіраўніка гурта беларускай культуры "Зорка Венера", г. Ізяслаў**

гутарка

# Уладзіслаў Ахроменка: "ВОЙНЫ ПАЧЫНАЮЦЬ ТЭЛЕВЯДОЎЦЫ І КУЛЬТУРОЛАГІ. А ЗАКАНЧВАЮЦЬ КАНВОЙНЫЯ І РАССТРЭЛЬНЫЯ КАМАНДЫ"

Беларускі пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка, які жыве ў Чарнігаве, пагутарыў з Інай Кардаш пра гісторыю і сучаснасць, пра Украіну і Беларусь.



**– Вы амаль 20 гадоў жывяце ва Украіне, але часта наведваеце Беларусь. Якія змены вы назіралі ў нашай краіне за гэты час?**

– Пракаментую словамі гераіні з майго рамана "Тэорыя змовы". "Вуліцы чыстыя, батарэі гарачыя і можна яшчэ ў "Суперлато" выйграць". Як і 20 гадоў назад, так і цяпер бачу адно: "Таварышы чэрці, біце мяне бізунамі, толькі б не было вайны". Але ў Менску жыве мой сын, яму 21 год. Гляджу на яго і спадзяюся на новае пакаленне – гэта людзі, якія ведаюць па дзве–тры замежныя мовы, рэгулярна бываюць за мяжою, для якіх праўладныя кабінеты – паралельны свет.

**– Ці так я разумею, што ў беларускай моладзі шмат магчымасцяў? А як, па-вашаму, яна карыстаецца імі?**

– Ва Украіне не было ідэалагічных аддзелаў, за грамадскую дзейнасць не выганялі з ВНУ. Не было і такога русіфікатарства, як у нас. Беларуская моладзь мае вялікі патэнцыял, але яна моцна запалоханая. Маладзёны могуць здзекавацца з тых жа ідэолагаў у сацыяльных сетках. Але нават ад бяскрыўднага валанцёрства па ўпарадкаванні свайго горада палова з іх адразу адмовіцца, бо за такое могуць пакараць зверху.

**– Справа са станам беларускай мовы спакваля зрушылася ў лепшы бок, ці не так?**

– Калі ў грамадстве з'яўляюцца пасіянарныя людзі, прытым дастаткова хаця б 4–5 % апантаных, і калі яны пра сябе станоўча і голасна заяўляюць, усім здаецца, што гэта і ёсць новы модуль развіцця. Пасіянарныяў хутка большае, спакваля ствараецца крытычная выбуховая маса. Да яе далучаюцца людзі, якія яшчэ ўчора былі абыякавымі. Хаця б для таго, каб "быць, як усе". Гэта тычыцца і мовы, і культуры, і агульных зменаў у грамадстве. І гэта цудоўна. Але магло б быць і прасцей. Здаецца, Генадзь Бураўкін казаў: "Калі б беларусам загадалі быць беларускамоўнымі, яны б імі сталі". Я маю на ўвазе стаўленне да мовы дзяржаўных обер-ідэолагаў.

**– Як змяніўся за гэты час кантэкст беларуска-расійскіх стасункаў?**

– Гэта акупацыя нашых земляў, якая доўжыцца калі не з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай, то з 1994 года дакладна. Змяніліся адно формы. Зразумейце, што акупацыя чужых земляў не пачынаецца з "зялёных чалавечкаў", калоны танкаў і абстрэлаў "градаў". Усе захопніцкія войны распачынаюць тэлевядоўцы, культуролагі, гісторыкі, пісьменнікі, этнографы ды іншая публіка, якая саманазываецца "інтэлектуаламі". А заканчваюць канвойныя ўзводы і расстрэльныя каманды.

**– А чым Беларусь і беларусы могуць пахваліцца перад Украінай?**

– Украінцы больш згуртаваныя і значна больш салідарныя. Яны нават куды больш гасцінныя за нас. Але і больш эмацыйныя, і гэтая эмацыйнасць не заўсёды ідзе ім на карысць. Бывае, што спачатку рэагуюць, а потым думаюць. Не заўсёды абавязковыя ў параўнанні з намі, беларусы куды больш дысцыплінаваныя і працавітыя. Але і менш эмацыйныя. Беларусы ў Менску ўсміхаюцца куды радзей, чым украінцы ў Кіеве. Іншым разам наша эмацыйнасць даходзіць да млявасці. У маім разуменні, Украіна – гэткі надзвычай урадлівы чарназём, дзе і прыўкраснае, і пачварнае буяе, бы ў тых джунглях. А Беларусь хутчэй тарфянік, дзе нават пажары бываюць найчасцей падземныя. Але калі потым такі пажар выбухае, то згасіць яго ўжо немажліва.

**– Што вы б хацелі пажадаць беларусам?**

– Нічога не бойцеся! Украінцы не пабаяліся, выйшлі на Майдан. Ясная справа, ніякіх істотных зменаў не варта чакаць ані праз месяц, ані праз год, ані праз пяць-шэсць. Гэта найперш стратэгічная перспектыва. Галоўны плён Майдану – стварэнне грамадзянскай супольнасці, адчуванне сябе нацыяй і адыход ад "саўка". Гэта калі людзі разумеюць, што, акрамя іх, ніхто не стане даглядаць родную зямлю і дбаць пра свой край. А іншай зямлі і іншага краю і ў нас, беларусаў, таксама няма.

**Іна Кардаш, для "Радыё Свабода"**

**гутарка**

# ГАЗЕТА, ЯКАЯ ВЯДЗЕ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў БЕЛАРУСКАСЦЬ

Гутарка са старшынём Управы Беларускага "Радыё Рацыя" і адначасова галоўным рэдактарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва" Яўгенам Вапам.




**Радыё Рацыя: Сёлета газеце спаўняецца шэсцьдзесят гадоў...**

**Яўген Вапа:** Гэта шмат часу для чалавека, а для медыя – у некалькі разоў больш. Выданні з такой гісторыяй ужо набіраюць сваю вагу запісаных і бачаных падзеяў і таго, чым жыла газета, калі яны адбываліся. У гісторыі "Нівы" быў кароткі перыяд, калі яна не выдавалася, – ваеннае становішча ў Польшчы. Тады многія часопісы ўжо не аднавіліся, хаця нармальнае функцыянаванне "Нівы" на працяглы перыяд таксама было парушанае. Асяроддзе, якое гуртавалася вакол "Нівы", можна назваць інтэлектуальна партнёрскім да польскага журналісцкага асяроддзя.

**РР: Аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку ствараўся галоўным чынам сіламі беларускіх літаратараў, якія супрацоўнічалі з "Нівай".**

**ЯВ:** Гартанне падшыўкі "Нівы" – адзін з маіх улюбёных момантаў у жыцці. Гэта ўчытванне ў гісторыю Беласточчыны, лёсы нашых продкаў. Які шырокі спектр тэмаў, якія пашыраныя журналісцкія формы і якая поўная свядомасць узгаднання гістарычнай мінуўшчыны беларусаў! Гістарычная памяць пра сваіх герояў, пра адметнасць беларушчыны Беласточчыны, а таксама пра ўсю беларускую культуру, літаратуру, гісторыю пастаянна ўсплывала на старонках "Нівы". Веды, якія давала газета, выкарыстоўваліся чытачамі ў штодзённым жыцці. Сатырычныя вершы з "Нівы" часта можна было пачуць за сталом.

**РР: "Ніва" была яшчэ і мастом паміж Беларуссю і беларускай эміграцыяй**

**ЯВ:** У "Ніву" пісалі людзі з Амерыкі, Аўстраліі, Заходняй Еўропы, дзе былі асяродкі беларускай эміграцыі, а таксама з Савецкай Беларусі. Тыя лісты і літаратура, што прыходзілі ў рэдакцыю з Захаду, былі пад асаблівым прыцэлам тагачаснай службы бяспекі. І часам у рэдакцыі з'яўляліся спадары з пытаннем, што за кантакты ў спадара галоўнага рэдактара Валкавыцкага з Захадам і хто яму піша. Пад прыцэлам савецкіх спецслужбаў былі і тыя, хто кантактаваў з "Нівай". Працаваць у такіх умовах было вельмі няпроста. Што да пашыранай магчымасці друкавання і пісання на розныя тэмы, калі ўзяць іншыя газеты таго перыяду, дык сапраўды ёсць чым пахваліцца. З гледзішча жывога варштату і гісторыі мы дакладна не былі горшымі за "Бацькаўшчыну" ці "Беларуса". Вядома, перыяд Другой сусветнай вайны у нас быў асветлены толькі з гледзішча афіцыйнай гістарыяграфіі.

**РР: "Ніўская сям'я" сустрэнецца ў Беластоку, каб адзначыць юбілей. На жаль, не будзе ўжо з намі Георгія Валкавыцкага – стваральніка і шматгадовага галоўнага рэдактара, не будзе Сакрата Яновіча, не будзе шмат каго з карэспандэнтаў...**

**ЯВ:** Цешыць тое, што заўтра мы сустрэнем частку тых людзей, якія працавалі ў "Ніве" ў 80-я гады. Для мяне гэта і гонар, і выклік. Мы жартаўліва паўтараем словы, што "Ніва", як царква: дзверы заўсёды для ўсіх адкрытыя. Усе беларускія дарогі, калі нехта трапляе ў Беласток, заўсёды прывядуць у "Ніву". А з іншага боку – "Ніва" вядзе ў беларускасць па розных дарогах тысячы беларусаў Беласточчыны.

**Гутарыў Мікола Ваўранюк, Беларускае Радыё Рацыя**

**навіны**

# АДКРЫЛАСЯ ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ "МАЮ ГОНАР"

17 лістапада 2016 года ў будынку "Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч" у Рызе адбылося адкрыццё юбілейнай выставы "Уражанні беларускіх мастакоў у Балтыі" Аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар".

На ўрачыстасць прыбылі мастакі і госці з Латвіі, Літвы, Эстоніі, Швецыі і Беларусі. У зале яблыку не было дзе ўпасці.

Урачыстасць адкрыў старшыня Аб'яднання і намеснік старшыні Латвійскага беларускага культурнага таварыства "Світанак" Вячка Целеш, павіншаваўшы ўсіх са святам Латвіі, за свабоду якой на барыкадах стаялі і беларусы. Прагучаў гімн Латвійскай Рэспублікі. Майстар прадставіў кожнага мастака. Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць Алега Аблажэя, які сышоў сёлета ў лепшы свет. Мерапрыемства вяла журналістка Латвійскага радыё, сябра "Світанку" Таццяна Касуха.

Першы сакратар амбасады Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы Аляксандр Сушкевіч, кіраўнік АНКТЛ Рафі Хараджанян, дырэктар Рыжскай беларускай школы імя Янкі Купалы Ганна Іване, кіраўніца Даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры Жана Раманоўская, старшыня таварыства "Світанак" Ірына Кузьміч, кіраўнік Беларускага інфармацыйнага цэнтра Уладзіслаў Рэдзькін, мецэнат Дзмітрый Кабановіч павіншавалі мастакоў з юбілеем аб'яднання "Маю гонар" і выставай, адзначыўшы іх значны ўклад у культуру Латвіі і Беларусі.

Прывітанне з Радзімы, ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", мастакам прывёз вядомы бард і паэт Алесь Камоцкі. Ён пад гітару выканаў некалькі песень, якія гледачы слухалі, затаіўшы дыханне. Цудоўна выканалі песні на беларускай мове выхаванцы Рыжскай беларускай школы. І хацелася ў скокі ісці пад завадныя народныя песні ў выкананні ансамбля "Вытокі".

Вечар атрымаўся светлым, душэўным.

Па дамоўленасці, у 2017 годзе ў Даўгаўпілскім Цэнтры беларускай культуры пройдзе выстава Аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар". Іх юбілейная брашура, а таксама дыск з песнямі А. Камоцкага папоўнілі фонды бібліятэкі ЦБК.

**Паводле інфармацыі Цэнтр беларускай культуры (Даўгаўпілс, Латвія)**



**Вячка Целеш падчас адкрыцця юбілейнай выставы АМ-ББ "Маю гонар" з паэтам і бардам Алесем Камоцкім.** Фота са старонкі Вячкі Целеша ў Фэйсбуку

Аб'яднанне беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар" было заснавана 12 студзеня 1991 года мастакамі з Латвіі, Літвы, Эстоніі і Расіі, палучаных любоўю да беларускай культуры. Мастакі працуюць у розных тэхніках жывапісу, графікі, скульптуры і фотамастацтва. Выставы суполкі праходзілі ў многіх гарадах Латвіі, у Беларусі, Літве, Эстоніі. Нязменным кіраўніком Аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар" з'яўляецца Вячаслаў (Вячка) Целеш – сябра Саюза мастакоў Беларусі, сябра Саюза мастакоў Латвіі, кавалер Ордэна Трох зорак ЛР.

У Аб'яднанне беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар" у розныя гады ўваходзілі Алег Аблажэй (Літва), Крысціна Балаховіч (Літва), Анатоль Ермаковіч (Латвія), Пётр Худабчонак (Латвія), Надзея Ізнёва (Латвія), Ірына Кароль (Латвія), Вольга Кажамяка (Латвія), Генадзь Курлянкоў (Эстонія), Вячаслаў Лаўрыновіч (Латвія), Аліна Літвіненка (Латвія), Васіль Малышчыц (Латвія), Леанід Маствілішскі (Латвія), Тамара Насенка (Латвія), Кацярына Осберг (Швецыя), Маргарыта Астраўмава (Эстонія), Людміла Прыбыльская (Эстонія), Ганна Пейпіня (Латвія), Алены Раманенка (Латвія), Зіта Суднік (Латвія), Алена Ціхамірава (Латвія), Ірына Трумпель-Сабалеўская (Латвія), Галіна Жэлабоўская (Латвія).



# ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Дарагія сябры!

Віншуем вас з Калядамі і Новым годам!

Мы разам ужо больш за чвэрць стагоддзя, і спадзяемся, што ў наступным годзе сувязь паміж намі яшчэ больш умацуецца!

Хай наступны год стане годам, у якім здзейсняцца ўсе вашыя планы, а добры настрой зробіцца неадлучным спадарожнікам у вандроўцы па ягоных святах ды штодзённасці!

Сабе мы пажадаем, каб ад вас прыходзілі толькі добрыя навіны!

Хай у надыходзячым годзе кожная ваша думка пра Беларусь будзе поўная натхнення, а энергія для кожнай дзеі на карысць Бацькаўшчыны – не згасала!

**Управа МГА "ЗБС «Бацькаўшчына»"**

гутарка

# ВА УКРАІНЕ РАСПАЧЫНАЕ ПРАЦУ БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ПРАГРАМА НА FM-ХВАЛІ

Прадукаваць беларускія перадачы збіраецца чарнігаўская тэлерадыёкампанія Svoboda.fm. За ўсё гісторыю ўкраінскай інфармацыйнай прасторы беларускае слова ў ім ніколі не гучала сістэмна.

Наш карэспандэнт Марцін Война пагутарыў з Алегам Галаваценкам, шэф-рэдактарам тэлерадыёкампаніі Svoboda.fm.

**Алег Галаваценка:** Мэта – разбурыць міфы пра Беларусь у галовах украінцаў і ў галовах беларусаў пра Украіну. Але ж ініцыятыва амаль не мае дачынення да інфармацыйнай палітыкі дзяржавы.

**РР: Дзяржава вам будзе дапамагаць?**

**АГ:** Трэба, каб нам проста ніхто не замінаў. Дзяржава можа даць частотныя рэсурсы падобным радыёстанцыям. Гэтае пытанне на дзяржаўным узроўні дагэтуль не вырашанае.

**РР: Якая мэтавая аўдыторыя?**

**АГ:** Гэта этнічныя беларусы, якія жывуць у Чарнігаве, а таксама на поўначы вобласці. Беларуская мова для Чарнігаўшчыны не чужая і абсалютна зразумелая. Што тычыцца інфармацыйнай напоўненасці, гэта асвятленне аспектаў сучаснага ўкраінскага жыцця, пра якое беларусам распавядаюць расійскія тэлеканалы. А таксама моманты, пра якія маўчаць украінскія медыйныя рэсурсы, але якія вартыя асвятлення ў эфіры, усё, што можа зацікавіць шопінг-турыстаў. Гэта будзе беларускамоўная праграма пра Чарнігаў. І пра гісторыю нашага сумежжа.

**РР: У апошнія гады Украіна асацыюецца ў свядомасці беларусаў выключна з двума словамі "вайна" і "карупцыя". Як бы вы хацелі змяніць імідж Украіны, з якімі словамі яна павінна асацыявацца ў Беларусі?**

**АГ:** Хочацца, каб Украіна асацыявалася з куды больш пазітыўнымі з'явамі. Але ва Украіне ёсць аб'ектыўная журналістыка, а гэта не канал прапаганды, таму мы змушаныя сумленна распавядаць пра сучасны стан рэчаў, у тым ліку і пра карупцыю.

Мяркуецца, што першыя беларускія радыёпраграмы ва ўкраінскім тэлеэфіры можна будзе пачуць ужо са снежня.

**Паводле Марціна Войны, "Беларускае Радыё Рацыя"**



# Светлай памяці Барыс Кірка

Шаноўныя сябры,

З глыбокім смуткам паведамляем пра адыход у іншы свет Барыса Кіркі – аднаго з самых актыўных дзеячоў парафіі святога Кірылы Тураўскага і Згуртавання Беларусаў Канады.

На працягу многіх гадоў спадар Барыс выконваў абавязкі старшыні альбо скарбніка парафіі. І, хаця жыў на Ніягары, амаль кожную нядзелю прыязджаў у Таронта на ранішнюю багаслужбу. Ні дрэннае надвор'е, ні кепскае самаадчуванне не замінала Барысу Фёдаравічу разам з любаю на ўсё жыццё св. памяці Вераю Радзк прыязджаць на сваім аўта без спазнення і амаль да апошніх дзён спяваць у царкоўным хоры. Барыс Фёдаравіч валодаў цудоўным голасам і тонкім прыродным музычным слыхам. А ў маладосці спадар Барыс танчыў у народным ансамблі.

Многія з нас – маладыя альбо старэйшыя – лічылі Барыса Фёдаравіча сваім сябрам і любілі яго за чуласць, дабрыню, адказнасць, аптымізм, прыязнасць, вясёлы характар.

**Парафія Святога Кірылы Тураўскага, Згуртаванне Беларусаў Канады**

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сям'і і сябрам Барыса Кіркі. Вечная і светлая яму памяць!

# Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2016 года

1 снежня – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Рыгор Бярозкін, літаратар.

2 снежня – 240 гадоў таму, у 1776-м, нарадзіўся Анёл Доўгірд, філосаф.

3 снежня – 225 гадоў таму, у 1791-м, нарадзіўся Міхаіл Гамаліцкі, лекар, гісторык.

7 снежня – 95 гадоў таму, у 1921-м, у Радашковічах заснавана Таварыства беларускай школы.

8 снежня – 90 гадоў таму, у 1926-м, памёр Кастусь Бялецкі, грамадска-палітычны дзеяч.

9 снежня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Максім Багдановіч, паэт.

10 снежня – Дзень правоў чалавека.

10 снежня – 185 гадоў таму, у 1831-м, у Парыжы ўтворана Таварыства літоўскіх і рускіх зямель.

10 снежня – 20 гадоў таму, у 1996-м, памёр Роберт Тамушанскі, грамадска-культурны дзеяч у Вялікабрытаніі і Ватыкане.

13 снежня – 190 гадоў таму, у 1826-м, памёр Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, царкоўны дзеяч.

14 снежня – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Аляксандр Калодка, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

14 снежня – 15 гадоў таму, у 2001-м, памёр Самсон Пярловіч, паэт, сябар падпольнага Саюза вызвалення Беларусі.

15 снежня – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Сцяпан Александровіч, празаік.

16 снежня – 115 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Мікалай Марцінчык, грамадска-культурны дзеяч.

16 снежня – 65 гадоў таму, у 1951-м, у Нью-Ёрку створаны Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва.

17 снежня – 130 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Мікола Равенскі, кампазітар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі.

17 снежня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Андрэй Цікота, грамадска-культурны дзеяч, генерал ордэна марыянаў.

18 снежня – 245 гадоў таму, у 1771-м, нарадзіўся Францішак Ксаверы Несялоўскі, удзельнік паўстанняў 1794 і 1830–1831 гг.

21 снежня – 220 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Тамаш Зан, удзельнік вызваленчага руху, філамат.

21 снежня – 35 гадоў таму, у 1981-м, памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, дзеяч на эміграцыі.

22 снежня – 15 гадоў таму, у 2001-м, памёр Уладзіслаў Чарняўскі, каталіцкі святар, перакладчык Біблії на беларускую мову.

23 снежня – 220 гадоў таму, у 1796-м, нарадзіўся Віктар Гельтман, публіцыст, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

23 снежня – 185 гадоў таму, у 1831-м, памерла Эмілія Плятар, удзельніца нацыянальна-вызваленчага чыну.

24 снежня – 255 гадоў таму, у 1761-м, нарадзіўся Якуб Ясінскі, палітычны дзеяч, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

26 снежня – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Алесь Вініцкі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

27 снежня – 180 гадоў таму, у 1836-м, нарадзіўся Валерый Врублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

27 снежня – 125 гадоў таму, у 1906-м, памёр Аляксандр Ходзька, паэт.

27 снежня – 110 гадоў таму, у 1906-м, нарадзілася Іна Рытар, пісьменніца, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

28 снежня – 45 гадоў таму, у 1971-м, памёр Дамінік Аніська, дзеяч хрысціянскага руху, апошнія гады жыў у Вялікабрытаніі.

30 снежня – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзілася Лідзія Ялоўчык, пісьменніца.

30 снежня – 65 гадоў таму, у 1951-м, заснавана Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі ў ЗША (да 1967 г. – Згуртаваннем беларускай моладзі ў Амерыцы).

31 снежня – 100 гадоў таму, у 1916-м, памёр Казімір Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

31 снежня – 40 гадоў таму, у 1976-м, у Мельбурне пачалася Першая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі. Заснавана Федэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

31 снежня – 25 гадоў таму, у 1991-м, памёр Юры Астроўскі, біяхімік, акадэмік, грамадскі дзеяч.

**Беларусы ў свеце**
No 11 (174), лістапад 2016

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27